**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 7.46, 17.01, 9.15;
Віцебск — 7.40, 16.47, 9.07;
Магілёў — 7.35, 16.51, 9.16;
Гомель — 7.27, 16.53, 9.25;
Гродна — 8.00, 17.17, 9.17;
Брэст — 7.56, 17.23, 9.27.

**МЕСЯЦ:**
Маладзік 3 лютага.

**ІМЯНІНЫ:**
Рыгора, Майсея, Фелікса, Піліпа, Аляксандра, Віталя; Рамуальда, Рышарда.

# ЗВЯЗДА

7 ЛЮТАГА 1992 г.
пятніца, № 27 (21805)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 40 кап.

## РозГАЛАС

## ЧУТКІ АБ СМЕРЦІ ГАЗЕТ ПРОСІМ ЛІЧЫЦЬ ПЕРАБОЛЬШАНЫМІ

Як паведаміў нам першы намеснік старшыні Дзяржкамдруку Рэспублікі Беларусь Станіслаў Нічыпаровіч, сітуацыя з паперай для рэспубліканскіх, абласных і раённых газет павінна ў бліжэйшы час праясніцца.

Ужо ідуць да нас з Кандапогі першыя шэсць вагонаў з паперай. Абласныя газеты і ўпраўленні Міністэрства інфармацыі папярэджаны аб тым, што гадавая патрэбнасць рэспублікі ў паперы будзе задаволена на 70 працэнтаў.

Гэта азначае, што чуткі аб заўчаснай смерці дзяржаўных перыядычных выданняў можна лічыць заўчаснымі. Праўда, застаюцца шматлікія «але». Першае, канечне, заключаецца ў вельмі ўжо «зыбкай» цане на паперу. Калі тры тыдні назад Кандапога «давала» за тону паперы шэсць з палавінай тысяч рублёў, то цяпер ужо ўстаноўлена цана ў 13.825 рублёў. І няма ніякай упэўненасці, што яна застанецца такой да поўнага выканання дамоўленасці па паперы паміж Дзяржснабам рэспублікі і Кандапогай.

Другое «але» ў дзеянні ўжо стаўшага знакамітым указа Ельцына аб ліцэнзіях на вывозімую з Расіі прадукцыю. Фактычна ён не пакідае амаль ніякай надзеі прыкупіць паперы за рублі на расійскіх біржах.

Пакуль жа генеральны дырэктар фірмы «Белдрук» купіў месца на біржы «Расійская папера» і спадзяецца на лепшыя часы ў адносінах паміж Беларуссю і Расіяй у плане эканамічных міжрэспубліканскіх адносін.

Тое ж пагадненне, якое заключана ў Кандапозе, мае права ліцэнзіі на вываз і дабаўляе надзеі на бесперапынны выхад рэспубліканскіх, абласных і раённых газет.

Аляксандр КОКТЫШ.

## ПРАЦАВАЛІ З АГЕНЬЧЫКАМ...

Раніцай 6 лютага па Мінску хутка разнеслася навіна аб тым, што Дом рэспублікі, які будуецца на Кастрычніцкай плошчы і які журналісты называюць «саркафагам», гарыць. Карэспандэнт БелаПАНа выехаў на месца здарэння і ўдакладніў дэталі.

Сігнал аб пажары паступіў у 9.15, а праз шэсць мінут першая дзяжурная брыгада прыехала ўжо да месца здарэння. Як высветлілася, ад іскры электразваркі загарэліся рыштаванні і поліэтыленавая плёнка. З'явілася пагроза разбурэння мармуровых пліт будынка. У лічаныя мінуты пажарныя ў цяжкіх пагодных умовах спачатку лакалізавалі, а потым і патушылі пажар. «Саркафаг» пакуль што ўстаяў.

Віталь ЦЫГАНКОЎ,
БелаПАН.
Фота Сяргея ПЛЫТКЕВІЧА.

## Друкары выратаваліся. А іншыя?

*УШАЧЫ. Пры нашай размеркавальнай сістэме незайздросная доля ў філіялаў працы рознага падпарадкавання была заўсёды. Хоць ім і выдзяляліся пэўныя фонды на сыравіну і матэрыялы, але іх яшчэ трэба было атрымаць. Зараз над такімі малымі прадпрыемствамі наогул навісла пагроза закрыцця. А куды ўладкуешся ў такім невялікім райцэнтры, як Ушачы? Але выйсце знайшлі. Свой філіял ва Ушачах Полацкая ўзбуйненая друкарня на тры гады здала ў арэнду. Зараз гэта цэх малога прадпрыемства «Прэс-сервіс».*

*На пытанне, што такая перамена дасць калектыву, брыгадзір друкарні Л. Гладышава адказала:*

*— На бліжэйшыя тры гады калектыў будзе забяспечаны працай. І зарплата ў людзей павялічыцца.*

## РЫНАК ПРАЦЫ І ЗАНЯТАСЦЬ НАСЕЛЬНІЦТВА

У пераходны перыяд да рыначных адносін ажыццяўляецца фарміраванне рынку працы на аснове павышэння эфектыўнасці занятасці. Працэсы перабудовы паклалі пачатак абнаўленню эканамічных структур, развіццю кааперацыі, арэндных і малых прадпрыемстваў, развіццю малога бізнесу. Павелічэнне колькасці занятых ў кааператывах, на арэндных прадпрыемствах, прадпрыемствах акцыянерных таварыстваў, занятых індывідуальнай працоўнай дзейнасцю і ў самастойных сялянскіх гаспадарках прывядзе да скарачэння занятых у дзяржсектары.

На 1.01.92 г. у службу занятасці звярнулася 66.158 чалавек, з якіх 39.807 былі працаўладкаваны, 1 тысяча чалавек накіраваны на перанавучэнне, а 842 — задзейнічаны на грамадскіх работах. За гэты перыяд 3.136 чалавек прызнаны беспрацоўнымі, з іх 2.261 назначана дапамога па беспрацоўю.

Паводле разлікаў Дзяржкампрацы РБ, у 1992 годзе ў выніку рэарганізацыі, перапрафіліравання, ліквідацыі стратных прадпрыемстваў, збояў у забеспячэнні матэрыяльна-тэхнічнымі рэсурсамі і камплектуючымі, у выніку разбалансаванасці эканамічных сувязей на рынак працы паступіць каля 300 тыс. чалавек. Колькасць беспрацоўных складзе амаль 60 тыс. чалавек.

Кіраўнікам прадпрыемстваў і арганізацый, прафсаюзным камітэтам ва ўмовах рыначных адносін неабходна накіраваць свае намаганні на захаванне рабочых кадраў, не дапускаючы скарачэння рабочых месц.

### ПАВЕДАМЛЯЕ СЛУЖБА ІНФАРМАЦЫІ ДЗЯРЖЭКАНОМПЛАНА РБ

## РАСТУЦЬ ЗАРАБОТКІ, РАСТУЦЬ...

**У невытворчай сферы ў 1991 годзе павышана заработная плата работнікам аховы здароўя, асветы, культуры, работнікам вышэйшай школы, а таксама работнікам бюджэтных устаноў і арганізацый. Як і было прадугледжана рашэннямі ўрада, яе ўзровень у мінулым годзе ўзрос да ўзроўню 1990 года амаль удвая і склаў 446 рублёў. У чацвёртым квартале 1991 года сярэднямесячная заработная плата рабочых і служачых, занятых у невытворчай сферы, склала 674 рублі, ці ўзрасла ў 3,2 раза да ўзроўню 1990 года.**

**У галінах матэрыяльнай вытворчасці ў 1991 годзе сярэднямесячная заработная плата ўзрасла да ўзроўню 1990 года ў 1,9 раза і склала 536 рублёў, а ў чацвёртым квартале мінулага года да ўзроўню 1990-га павялічылася ў 3,2 раза і дасягнула 890 рублёў у месяц.**

**Ва ўмовах далейшай лібералізацыі цэн урадам рэспублікі, як вядома, прынята рашэнне аб павышэнні са студзеня гэтага года заработнай платы ў народнай гаспадарцы ў 2—2,5 раза. У адпаведнасці з разлікамі яе ўзровень складзе 1.908 рублёў.**

## КАРМЫ—ПРАБЛЕМА З ПЕРШАЧАРГОВЫХ

Для захавання пагалоўя жывёлы ўрадам прымаюцца меры па забеспячэнню жывёлагадоўлі кармамі. У адпаведнасці з рашэннем міжрэспубліканскай харчовай камісіі ў рэспубліку па імпарту павінна быць пастаўлена 4,1 млн. тон харчовага і фуражнага збожжа і 286 тыс. тон соевых шротаў. Ужо ў студзені па кантрактах будзе атрымана 270 тыс. тон збожжа і ў лютым—218 тыс. тон. Акрамя таго, па крэдытах камісіі Еўрапейскага супольніцтва заключаны кантракт на пастаўку ў 1992 годзе 160 тысяч тон збожжа, а з Польшчай заключана бартэрнае пагадненне аб пастаўцы ў рэспубліку 156 тыс. тон збожжа ў абмен на дызельнае паліва і ўгнаенні.

Надаючы важнае значэнне пытанню захавання пагалоўя жывёлы, Савет Міністраў прыняў пастанову, якой прадугледжваецца ў аператыўным парадку заключыць кантракты з замежнымі фірмамі на закупку збожжа ў аб'ёме не менш 2 млн. тон.

## ПАЧУЙЦЕ НАШ БОЛЬ

Яшчэ адна грамадская арганізацыя створана ў рэспубліцы — аб'яднанне інвалідаў Чарнобыля. Асноўнай мэтай яе з'яўляецца сацыяльная абарона інвалідаў-ліквідатараў, а таксама людзей, якія эвакуіраваны з тэрыторыі радыеактыўнага забруджвання альбо жывуць там, і іх інваліднасць звязана з катастрофай на ЧАЭС. Новая арганізацыя будзе клапаціцца і аб дзецях, пацярпеўшых ад радыяцыйнага ўздзеяння.

Інваліды Чарнобыля чакаюць дапамогі ад грамадскіх арганізацый, прадпрыемстваў, банкаў, камерцыйных фірм і прыватных прадпрымальнікаў, ад людзей добрай волі.

**Адрас аб'яднання: 220007, Мінск, Жукоўскага, 6, корп. 1, а/с 347, тэл.: 36-17-71.**

## «СВОБОДНЫМ НОВОСТЯМ» МОЖНА ВЕРЫЦЬ

— напісаў у сваім пісьме адзін з чытачоў гэтай даволі папулярнай у рэспубліцы газеты. Як верыць, а чытаць яе хоць бы час ад часу рэдакцыя ўсё ж рэкамендуе. Тым больш, што ў чарговым, дваццаць пятым нумары «Свободных новостей» сапраўды ёсць што пачытаць. Спачатку можна назваць толькі некаторыя загалоўкі змешчаных у ім матэрыялаў: «Чалавек, які лечыць рукамі «невылечваемы» радыкуліт і здымае зубны боль... па тэлефоне», «Член - кар. АН Беларусі Альберт Вейнік: «Не проста веру — ведаю, так, Бог ёсць», «Шлях каўбасы ад калгаса да халадзільніка каштуе 200 рублёў», «У СНД бізнесменаў мала, большасць — проста спекулянты».

Як заўсёды, не абышлося без сур'ёзных палітычных матэрыялаў - прагнозаў. Сюды можна аднесці ўсю другую паласу «Полюсы. Экватар», на якой выкладзены пазіцыі аднаго з лідэраў незалежных прафсаюзаў Сяргея Антончыка, намесніка старшыні савета Федэрацыі прафсаюзаў РБ Дзмітрыя Марача і сустаршыні партыі камуністаў Беларусі Віктара Чыкіна. Думаецца, што шмат цікавага чытачы возьмуць для сябе з інтэрв'ю з эканамічным кансультантам парламенцкай апазіцыі БНФ Анатолем Станкевічам.

Фігура Таццяны Бумажковай дагэтуль выклікае вялікі рэзананс, неадназначныя ацэнкі па сваёй палітры. «Свободные новости» прапануюць увазе чытачоў цэлую паласу па «Бумажковай».

Гісторыя, яе плямы ніколі не заставаліся па-за ўвагай журналістаў «Свободных новостей». На гэты раз выказваецца меркаванне аб прычынах смерці Уладзіміра Леніна.

Прадстаўлены ў гэтым нумары і Павел Глоба, і адзін з лепшых футбалістаў мінскага «Дынама» Андрус Жута, і... Лаўрэнцій Берыя з двухстамі чатырнаццаццю згвалтаванымі жанчынамі.

Ёсць у нумары і матэрыялы па праблемах сям'і і шлюбу, наркотыкаў і, як заўсёды, «вытрыманы ў лепшых традыцыях» гумар на шаснаццатай паласе.

**Рабочы кантроль у гандлі шчыра не любяць. Дый за што? Пасля работы, замест таго каб бегчы хутчэй дадому, на канапу перад тэлевізарам, гэтыя «рабацягі» цягаюцца па крамах і нешта вышукваюць. І паспрабуй такога кантралёра, які, адстаяўшы змену, бачыць у магазінах прадаўцоў пры пустых паліцах і чыя замучаная жонка палавіну жыцця бавіць у чэргах, пераканаць «увайсці ў становішча» спрытнюгі-гандляра, што натрамбаваў сабе пад прылаўкам поўныя торбы.**

**Вось і дырэктар гастранома № 12 Фрунзенскага райхарчгандлю г. Мінска Аляксандр Рахманенка сустрэў групу рабочага кантролю Мінскай вобласці, у якую ўвайшлі работнікі ВА «Гарызонт» Міхаіл Рагавой, Мікалай Пісарчык, Марат Сазановіч, Леанід Вайсман і карэспандэнт «Звязды», зусім няветліва.**

# Скандал у супермаркеце

### АМАЛЬ ДЭТЭКТЫЎ З АДКРЫТЫМ ФІНАЛАМ

#### СКАРБЫ ЧОРНАГА ДЫПЛАМАТА

Дванаццаты гастраном — на праспекце Пушкіна, каля атэлье «Лада» — я ведаю нядблага. У раёне ён адзін з горшых. Асартымент прадуктаў там заўсёды бедны, малака ў пакетах не было, напэўна, з дня адкрыцця, хлеб звычайна чэрствы. Абслугоўванне адпаведнае — на пустым месцы чаргу збяруць. Вялікіх выкрыццяў ніхто з нас у гэтым магазіне не чакаў, максімум — прыхавае хто з прадаўцоў кавалак мяса (было 29 студзеня). Вырашылі: будзе нецікава — пад'едзем куды ў іншае месца. Але паводзіны дырэктара адразу насцярожылі. Аляксандр Мікалаевіч — сярэдняга росту, сярэдняга ўзросту, круглатвары чалавек у швэдары з надпісам «Capuchon» — занадта заметусіўся. Ён пільна ўчытаўся ў кожнае пасведчанне кантралёраў, потым параіў праверыць які-небудзь магазін у вобласці, нарэшце, пачаў званіць у нейкія інстанцыі з пытаннем, ці мае права рабочы кантроль «трэсці» яго «супермаркет». Рэакцыя на з'яўленне чатырох рабочых, няхай сабе і ў кампаніі карэспандэнта, мякка кажучы, неадэкватная. Даведаўшыся, што рабочы кантроль «можа», прыкметна спахмурнеў і за кароткім аглядам свайго кабінета сачыў вельмі сумнымі вачамі. Бутэлька шампанскага, каньяк «Напалеон», за тэлевізарам дзве бутэлькі мадэры і гарэлка.

— Гэта маё. Яшчэ ў мінулым годзе атаварыў талоны.

Добра. У шафе нейкія прамтавары.

— Мае рэчы, ніяк не збяруся дадому занесці.

Няхай. Мы неаднойчы сутыкаліся з тым, што гандлёвыя работнікі на сваіх рабочых месцах трымаюць самыя нечаканыя рэчы. Але дзе інструкцыя, якая забараняла б прадаўцу ператварыць магазін у філіял сваёй хатняй кладоўкі?

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## ХАТНЯЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

### ПАРАДЫ ЧЫТАЧОЎ

## ЗАМЕСТ ШАПАЧКІ

**Калі мароз не дапякае, лыжніцы-модніцы замест шапачкі аддаюць перавагу вязанай палосцы.**

**Канешне, яны рызыкуюць застудзіць галаву, таму параду — з ёю звяртаецца чытачка «Звязды» Галіна АНДРЭЕВА — мы адрасуем тым дзяўчатам, якія вясной не носяць галаўнога ўбору, але хочуць, каб валасы не падалі на вочы і каб у туалеце была дадатковая прыгожая дэталь. Як жа звязаць модную палоску?**

Набіраеце 25 вочак (9 см), правязваеце 10 см і пачынаеце спускаць па адному вочку ў кожным правым радзе з правага краю вырабу. Калі на прутку застанецца 12 вочак, спуск спыняеце і, правязаўшы яшчэ 10 см, пачынаеце прыбаўляць па аднаму вочку ў кожным правым радзе з правага краю вырабу. Калі на прутку будзе 25 вочак, прыбаўку спыняеце і правязваеце яшчэ 10 см. Закрываеце вочкі і сшываеце краі. Каб палоска не скручвалася ў трубачку, рэкамендуецца па тры вочкі з кожнага краю вырабу (не лічачы пруга) вязаць хустачнай вязкай, астатнія вочкі — панчошнай (спускаць і прыбаўляць вочкі пасля хустачнага ўзору).

Можна звязаць і інакш: набраць 32 вочкі (уключаючы пруг) і вязаць рызінкай 3×3 палоску даўжынёй 48 см. Асобна звяжыце палоску той жа вязкай, але з 15 вочак, даўжынёй у 9 см, сшыйце з яе кольца і прапусціце ў яго другую палоску. Злучыце яе канцы, схаваўшы шво ў кольцы.

81

## У КЛЕТЦЫ СПЯВАЕ, ЯК НА ГАЛІНЦЫ

**Некаторыя рэкамендуюць чысціць клетку зернаедных птушак адзін раз, а насякомаедных два разы на тыдзень. Хачу паведаміць, што пры такой уборцы непазбежны непрыемны пах і неахайны выгляд клеткі. Прыбіраць трэба часцей, інакш размнажаюцца розныя паразіты, якія вельмі непакояць птушак, — лічыць жыхарка г. Віцебска Яўгенія МАКАРАНКА.**

Каб у клетцы заўсёды было чыста, трэба на паддон насыпаць слой аптэчнага рамонку ці распыліць з марлевага мяшэчка парашок пірэтруму, а зверху насцяліць 6—7 слаёў паперы. Штодзённа (пажадана раніцай) пры ўборцы клеткі выцягваць праз дзверцы верхні ліст паперы, а на чысты ставіць кармушкі.

Калі зняты апошні ліст паперы, зноў паддон пасыпаюць рамонкам ці распыляюць пірэтрум, засцілаюць паперу, і клетка заўсёды чыстая.

Адзін раз на месяц птушку асцярожна пераганяюць ці адсаджваюць у запасную клетку і робяць генеральную ўборку: клетку і жэрдкі абліваюць кіпнем, зімой (па магчымасці) пасля прасушкі выстаўляюць яе на суткі на мароз, пасля чаго, даўшы клетцы сагрэцца, змяшчаюць туды птушку.

Канарэек трымаю больш за дзесяць гадоў, і ніколі яны не хварэлі. Я іх штодзённа выпускаю палятаць па пакоі. Калі мяняю корм і паперу, яны лятаюць больш за гадзіну, а потым самастойна кожная вяртаецца ў сваю клетку.

## ПАРАДЫ ПАЧЫНАЮЧЫМ ШЫЦЬ

● **Вы адпрасавалі спадніцу, штаны, сукенку,** не надзявайце іх адразу пасля прасавання. Дайце ім 5—10 мінут астыць, і яны будуць менш камечыцца.

● **Ніткі для строчкі** падбірайце ў тон асноўнага колеру тканіны. Лепш ледзь цямнейшыя, чым святлейшыя.

● **Добра ляжыць касая бейка,** на якой падоўжная нітка строга пад вуглом 45 градусаў да лініі зрэзу. Скроеная нават з невялікім адхіленнем бейка ляжыць дрэнна, «моршчыцца».

82

● **Для таго каб строчка на вырабах** у час нашэння і мыцця не лопалася, калі будзеце страчыць шоў, злёгку пацягвайце яго, асабліва на касых месцах.

● **Перад тым як кроіць,** абавязкова прадэкалюйце тканіну. Загарніце яе ў мокрую прасціну, дайце ёй добра ўвільгатніцца і злёгку прасохнуць. Затым адпрасуйце. Прасаваць трэба ў напрамку падоўжнай ніткі, не выцягваючы тканіну. Але абавязкова добра прасушыце яе.

● **Любую выкрайку,** перш чым пачаць кроіць, трэба зверыць са сваімі меркамі і адпаведна ім недзе прыбавіць або адняць. Пераканаўшыся, што цяпер яе размеры дакладна адпавядаюць вашым, можна пачынаць раскрой тканіны.

● **Для таго каб вуглы пояса, манжэты, каўняра** і г. д. атрымаліся дакладнымі, трэба, не дастаючы іголкі з тканіны, падняць лапку, павярнуць тканіну, апусціць лапку і працягваць строчку ў патрэбным напрамку.

## СТАНОВІМСЯ НА ЛЫЖНЮ

МАЛ. 1
А
А
А — А
МАЛ. 2
1
2
2
МАЛ. 3

**Нарэшце, за вокнамі снег, і можна ажыццявіць мару аб лыжнай прагулцы. Для тых, хто спазніўся з падрыхтоўкай, — некалькі парад.**

### ШАБЕР НА ЛЫЖЫ

Ачысціць снег са слізгаючай паверхні лыжы можна з дапамогай дзюралевага вугалка даўжынёй 200 мм, шырынёй 30 мм і вышынёй 15 мм, прыкручанага ззаду мацавання (мал. 1). Па краях шабер закрыты пробкамі з пенапласту. Для зняцця наліпшага снегу неабходна, не здымаючы лыж, пацерці іх аб шабер.

83

### СКАБА ДЛЯ ПЯТКІ

Упэўнена рабіць павароты і тармажэнні пры спусках з гор, калі выкарыстоўваюцца вялікія лыжныя ці турысцкія чаравікі і мацаванні «ротафела» (спружынныя бястросікавыя), дапаможа пятачная скаба (мал. 2). Яе можна зрабіць са стальной пласцінкі таўшчынёй 1,5 мм па шырыні абцаса. Верхнія краі пласцінкі неабходна загнуць.

### ДАПАМОГУЦЬ ПРАТЭКТАРЫ

На лыжных прагулках і ў паходах выхаднога дня звычайна выкарыстоўваюцца мацаванні «ротафела». Для іх у падэшвах чаравікаў прыходзіцца прасвідроўваць паглыбленні. Пры пераходах па гораду, у транспарце адтуліны забіваюцца граззю, пяском, дробнымі каменьчыкамі. Перад тым, як надзець лыжы, усё гэта даводзіцца вычышчаць; штосьці ўціскаецца ў падэшву і паступова разбурае яе.

Прадухіліць адтуліны ад забівання дапаможа няхітрае прыстасаванне — «пратэктар» (мал. 3). 1 — лінія адрэзу; 2 — дзіркі для рамянёў. Для яго вырабу патрэбны скобы ад такіх жа мацаванняў з аналагічным размяшчэннем шпянькоў. Абрэжце заднюю частку скабы (на малюнку яна заштрыхавана), а круглыя адтуліны расшырце так, каб у іх праходзіў раменьчык. Замест раменьчыка можна выкарыстаць тугую шырокую рызінку.

Перад выхадам з дому, на біваку і пры вяртанні з прагулкі «пратэктары» надзяюцца на чаравікі. Яны не перашкаджаюць хадзьбе, чыстыя адтуліны забяспечваюць устойлівае становішча чаравіка ў мацаванні і павялічваюць «жыццё» лыжнага абутку.

### ВУЗЕЛЬЧЫК НА ПАМЯЦЬ

Пры лыжнай прагулцы з рукзаком яго лямкі часта спаўзаюць з плеч. Можна, вядома, змацаваць лямкі на грудзях рамянём, але тады цяжэй дыхаць. Лепш на плячах уздоўж рукаўных швоў нашыць валікі з тканіны вышынёй 2—3 см. Цяпер лямкі не саскочаць і дыхаць лёгка.

84

